ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ

АСОБНЫ НУМАР 40 ГРОШ.




# МАЛАНКА

Гумарыстычная 2-х тыднёвая часопіс.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**ВІЛЬНЯ, Завальная вуліца, № 7**
Беларуская Кнігарня. «МАЛАНКА»

**№ 4**
**22 ЛЮТАГА**
**1926 г.**

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:
на 1 год 8 злот.
„ паўгоду 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „

За граніцу: на год—тры даляры, на паўгоду—1 д. і 50 цэнт.






**ЭНДЭК:** — Хамы, а ня людзі гэтыя «białorusini», чаго яны скардяцца, чаго ім усё мала? Вось як мы дбаем аб падняцьце іхняй культуры, што адна з іх вёсак выглядае, як вуліца ў Парыжы. Зусім заходняя культура.

**Загадам Камісара Ўраду на м. Вільню № 3 «МАЛАНКІ» быў конфіскованы за верш «Заходняя Культура» і жарт пад рысункам Ю. Монвіда «Папелец».**

## „МАЛАНКА“.

Добры дзень табе, мой браце!
Беларусе, родны мой,
Зноў „Маланка“ ў Вашай хаце
Хоча гутарыць з табой.

Слухай, братка, сядзь за столам,
Побач сядзець хай сусед:
Рэшта вёскі станьце колам
Пры стале вось тут, як сьлед.

Хто з Вас, брацьця, Вільню знаець,
Мо‘, калі там з Вас хто быў,
Мо‘, аб Вільні дзед Вам баець,
Мо‘, з Вас нехта Вільню сьніў?..

Пекны горад Вільня наша:
Беларусі гордасьць тут,
З Вільні ёсьць „Маланка“ Ваша,
З Вільні прэць яна ў Ваш кут.

Ёсьць у Вільні подла „Рада
Тымчасова“ яе зваць:
Гэтага, браточкі, гада
Вы павінны зваяваць.

Гэты гад сваю газэту
Шлець дарма на вёску Вам:
Вон ганіць! — атруту гэту,
Бо яна нясе сьмерць нам.

Грошы ёй дае Варшава,
Гэтым хоча нас труціць:
І стараецца тут жвава —
Вас палякамі зрабіць.

Павлюкевіч там кіруе,
Ён Вам кажа, што ён свой:
Братка мой, Цябе ён труе..
Плюнь яму Ты, родны мой!

Ён за польскія дукаты,
Хоча ім прадаць наш край:
Й шлець атруту ў Вашы хаты —
Знай аб гэтым, братка знай!

Беларусам ён назваўся,
Каб Табе атруты даць:
Знай, браток, што ён прадаўся,
І... ня дай цябе прадаць.

Будь здароў, браток мой родны!
Хай шчасьлівіць Табе час:
Больш скажу у час свабодны,
Як прыйду чацьвёрты раз.

**Пярун.**

# Пакараў.

Дзямянку, чуў ці не,
Якую прыкрасьць мне
Прышлося працярпець?
— То трэба-ж сэрцы мець
Адважыцца на гэта!..

— А што? — Ды вось мая кабета:
Даўно ўжо прымячаў
Што чымсі шчокі мажа
Я ўзяў ды накрычаў...

— Ах, ты нялюдзкі, кажа:
Ня бачыш, што я хвора?
То-ж доктар мне учора
Казаў, каб так рабіла,
Ці-ж я табе ня міла?!

І я, братко, паверыў —
Характар такі маю.
Адноўчы адчыняю
Сабе паціху дзьверы
І што-ж — дасі ты веры!
Ну, ці-ж ня шэльма гэта?
Сядзіць мая Магрэта
На ложку з кумам во як —
Цалуюцца абое!

Ого! — паскудна справа...
Куды! Як станеш думаць
Ня лезе ў горла страва

Але-ж зрабіў я ім,
Каханенькім сваім...
Хай ведае кумок,
Што мне ня пяты рок;
Ня блазен я, здаецца,
Што ён з мяне сьмяецца.

Парадзь ты, братка, сам
Напрыклад. мной каб быў...
— Дык што-ж ты ім зрабіў
Цікава — як-жа там?

— А я, Дзямянку, ўзяў,
Дазваньня парубаў
На дровы ложку тую!
Цяпер трохі сумую —
Чаму быў не прадаў?...

**Міхась Васілёк.**

# ЖАРТЫ.

## Міністар Рачкевіч і „доктар“ Павлюкевіч.

Рачкевіч:

Ах, шацунак, мой „doktorze“!
Што-ж там нова? Як работа?
Як хвароба? Ці паможа?..
Можа трэба болей злота?

Павлюкевіч:

Цяжка... гадка... трудна жыці:
Трэба кожнага купіці,
Трэба кожнаму плаціці...
Радзь, мой пане!.. Што рабіці?..

Без сяброў я маю «Раду“,
На паперы ёсьць „Прасьвета“,
Й дэфэнзыва ходзіць з заду,—
Але... дзе-ж ёсьць наша мэта?..

Я-ж табе даў слова, пане!
Што згублю усіх — дачыста,
І ў мяне вось край так т а н ё,
Ты купіў за тысяч трыста.

Вось-жа я за гэты грошы,
Аднаго купіць ледзь здолеў...
Драматург з яго харошы
І паклоньнік алькаголю.

Больш купіць не абяцую,
Ну... авансік не зашкодзіць...
Бач, панок, я ўсьцяж працую,
Бо час выбараў надходзіць...

Дайце мне мандат пасольскі,
Дайце сойму мне трыбуну;
Вось тагды я „по геройски“,
Беларусі ў вочы плюну...

Я скажу для заграніцы,
Цэлы сьвет мяне пачуе —
Тут, дзе Польшчы ёсьць граніцы,
Беларусь там ня істнуе —

Рачкевіч:

Вам, я ўдзячны, мой паночку,
Праца Ваша дужа жмудна:
Ах!.. купляць паадзіночку —
Гэта-ж так страшэнна трудна.

Вам даю я паўмілёну;
Хай дужэець ваша праца...
Згодна польскаму закону:
„Podła praca — hojna płaca!“

**Пярун.**

### ЧАТЫРЫ КАНДЫДАТЫ.

Пан Язэп Пілсудскі аканчальна разгневаўся на Польшчу... — Ён заявіў, што ня стане яе ратаваць на‘т тады, калі на яе нападуць бальшавікі ці немцы... Бо гэтакую Польшчу, як ёсьць, і ня варта...

„Хай Польшча шукае сабе тады на становішча Вярхоўнага Камандзера арміі, — Ідыёта, асла, ці шую, прыязна параіў п. Пілсудскі, зьняўшы сваю кандыдатуру...

Ці-ж сапраўды на гэтае становішча ў Польшчы няма іншых кандыдатаў, апрача гэтых чатырох?

У кожным разе запрашаем п. Пілсудскага за ягоны „маланкавы“ стыль — у сталыя супрацоўнікі „Маланкі“.

### У МЕНСКУ.

— Скажэце, калі ласка, што гэта значыць Г. П. У.?

— Глувны Польскі Ужонд.

— Вось яно што! Я бо гляджу, што там выключна папольску гавораць.

### НА ПАЎСТАНКУ ТРАМВАЯЎ У МАСКВЕ.

— Здравствуйте, товарищ, что Вы здесь делаете?

— Трамвай под‘евреиваю.

— Что?

— Трамвай под‘евреиваю, у нас ведь теперь нельзя сказаць „под‘жидаю“, а то в Г. П. У. попадеш.

### НА ПАЎСТАНКУ АЎТОБУСАЎ У ВІЛЬНІ.

Адзін з супрацоўнікаў Паўлюкевіча, заўважыўшы свайго шэфа, пытае: Добры дзень, п. Доктар, што Вы, тут робіце?

Паўлюкевіч: — Дэфэнзыўвую— панімаеце — на автобус.

Знаёмы: — Што Вы кажаце?

Паўл.: — Кажу-ж Вам, што дэфэнзыўвую..., бо ці-ж можна сказаць „Чакаю“? Могуць падумаць, што ў „Чэка“ працуеш — панімаеце...

### У ДЭФЭНЗЫВЕ.

Конфідэнт: — Ты беларус?
Арыштованы: — Але.
Конфідэнт: — Камуніст?
Арыштованы: — Не!
Конфідэнт: — Што ты лжэш, сабака, гэта ж сынонімы!

*Блазан.*

## З прычыны прыезду украінскіх здраднікаў у Вільню.

Вітаю Вас, стэповы юды!
Я, Беларус, вітаю вас;
Здаецца тут... да подлай буды,
Прыйшлі вы гэта першы раз.

А... хто ж вас прыйме, ягамосьці,
Ах, здрайцы украінскіх мас
Вы подлы й подлых сяньня госьці:
Які Вас чорт прыгнаў да нас?

**Пярун.**

## Філёзофія ў прыказках.

— Ляпей з разумным згубіць, чым з дурнем знайсьці, — кажа сусед Пятрук, а сусед Янук адказвае:

— З разумным ніколі ня згубіш, а з дурнем ніколі не знойдзеш.

*

— Ня будзь чужым служкаю, калі можаш быць сваім панам,— кажа сусед Янук, а сусед Пятрук адказвае:

— Той, хто ёсьць сваім панам, ніколі ня будзе чужою служкаю.

**Сьвіст.**

### Што ж я цяпер зраблю!?

— Што-ж ты гэтакі сумны?

— Быў-бы і ты сумны, каб і з табой сталася тое, што і са мной!

— Ну, а што?

— Бачыш ажаніўся я: узяў кабылу і жонку...

— Ну?!

— Ну: кабыла здохла, а жонка жыве. І што ж я цяпер зраблю.

*Хохлік.*

### У БРАЦЛАЎСКАГА ШКОЛЬНАГА ІНСПЭКТАРА.

*Беларускі вучыцель*: Пане інспэктар, як мае экзамэны, ці можаце мне даць беларускую школу?

*Інспэктар*: Саўсім дрэнна пішаце, ня можаце нават добра гаварыць папольску і рэкамэндацыяў ня маеце ніякіх. Калі хочаце, дык дам вам польскую школу ў Мёрах, а ў беларускую вы ня маеце кваліфікацыяў.

*Хохлік.*



Фабрыкі замёрлі. Напрасна галодны рабочы люд шукае тут працы.




Змораныя голадам работнікі шукаюць помачы ў дзяржаўных установах, але ўрадовец кажа: як заўсёды:

— Запамогі няма, ды й ня будзе!



Ідзі на вечны спачын, дарагі работнік! Ня трэба табе ўжо а ні працы, а ні ўрадовай запамогі, нават енкі галодных жонкі і дзяцей не разбудзяць цябе...

# БЕЗРАБОТНЫ

(*Праўдзівы абразок*)

Будзе цяжкая зіма! — казалі з восені.

І праўда. Гэткага крызысу, гэтакага цяжару я не перажываў нават у крытычнейшыя часы вайны. На вёсцы працы ніякай. Усё замёрла, бы перад бурай якой.

— Што-то будзе, што-то будзе? — з нейкім жахам шэпчуць сяляне. Зарабіць ніскуль ні граша, а падаткі ўсе новыя і новыя падсыпаюць. Прыходзіцца адбіраць ад сям'і апошні кусок хлеба, — завясьці на кірмаш пуд-другі жыта, каб было чым заплаціць падатак.

Па праўдзе кажучы я ніякіх падаткаў не плачу, бо я безработны і ніякай маемасьці ня маю. А ўсё-ж такі жыцьцё зрабілася горай пекла, бо ў пекле, кажуць, чэрці нейкую там працу даюць: смалу вазіць, ці катлы падпаляць, а тут нічога ніякага, — хоць ты ваўком завый.

— Яначка, — кажа аднойчы да мяне жонка, схадзі ты да пана, можа ён табе дасьць якую працу. Людзі ходзяць працаваць у лесе, мо' і ты там пару злотых заробіш, бо голад, хлеба няма... На вачах яе былі сьлёзы.

Я ведаў, што пан да мяне ня ласкаў, а ўсё-ж такі пашоў.

— Што трэба? — неяк нібы закрычэў, нібы замычэў пан.

— Паночку! жонка галодная, дзеці. Зьлітуйцеся, дайце якую працу.

— Што?

— Працу! — з пакорай адказаў я.

Пан, прыжмурыўшы адно вока аглядзеў мяне з ног да галавы і яшчэ раз ад галавы да ног.

— Гэта, калі ня мыляюся той, што ў часе выбараў быў прэзасам нашага выбарчага камітэту? — са зьмяінай усьмешкай спытаўся пан.

— Але.

— Дык чаго ж ты тут прыходзіш?

— Працы шукаю!

— А памятаеш, як ты казаў, што трэба зямлю ад паноў адабраць, сялянам надзяліць і гэтак далей. Што ня трэба выбіраць да сойму паноў, а толькі сваіх беларускіх паслоў. Дык вон з воч, бальшавік праклятый! Хай табе твае хамскія паслы дадуць працу!

Сьцяўшы зубы, я моўчкі выйшаў з палацу. Я быў вельмі сярдіт на сябе што пайшоў з пакланам да пана.

Весела чырыкалі на дварэ верабейчыкі:

— Крызыс! Крызыс! Крызыс!

Ногі неяк неахвотна паддаваліся мне, а пусты жывот напяваў даўно мне знаёмы галодны марш.

**Я. Накрэвіч.**

## Паправіў.

Аднойчы з шпацыру да хаты
Па вёсцы нашай ад гумён
Ішлі адзін за адным два браты
(Двара Лужэцкага паняты)

Па йменьню: Янэк і Сымон.
І як на грэх, бяду якую,
У канцы аж самага сяла
Сустрэлі панічы сьвіньню такую.

(Нязвыкла для хлапцоў таўстую)
Што раптам абадвох цікавасьць узяла.
У здуменьні кажа Сымон брату:
— Глядзі, Янэчак, а я—я!..

Напэўна, аж таўсьцей за тату
(Хоць і тата наш чуць лезе ў хату)
Ужо будзе гэтая сьвіньня!
— Цьфу! Ты, дурань, — лаець брата,

Пачаў Янэчак тут адразу:
— Ты з кім зраўняў гэту заразу! —
Такіх сьвіней, як ёсьць наш тата,
У жыцьці ня ўбачыш ты ні разу.

**Я. Башкір.**

## У „доктара".

Даведаўшыся з газэтаў, што прэзас „Тымчасовае Рады" Паўлюкевіч называе сябе „доктарам", селянін прыносіць да яго хворае дзіця.

— Што гэта? — пытае Паўлюкевіч.

— Паночку, — кажа селянін.—Дзіця захварэла: рады яму ня дам, усю ноч кідаецца ня сьпіць.

— Нясеце яго да доктара, бо і я сам усю ноч кідаюся ня сплю, усё думаю якую брахню напісаць цяпер у сваёй газэце.

**М.**

## Абідзеўся.

— Ці ты чытаў „Беларускае Слова".

— За каго ты мяне лічыш? Я чэсны чалавек.

Беларусы! Каб „Маланка" бліскала ясьней узмацняйце яе падпіскаю!

# Клопат дзеяча.

— Паганы час... Цяпер дык яшчэ не бяда... Нічога, што ўсюды безрабоцьце я тымчасам „дзяржаўны муж" (mąż stanu) і можа добрых з паўтара года гэтак пацягнуцца, а што-ж далей?..

Гэткае пытаньне паўстала ў галаве нашага пасла Я—ча, і хоць новыя (нармальныя) выбары ў Сойм маюць быць неяк пад канец 1927 г., але да іх ён пастанавіў ужо рыхтавацца, і рыхтавацца не абы як там, а *консэквэнтна*, *„індівідуальна"* і наагул усяляк, як толькі любіць часамі казаць, квецячы свой аратарскі стыль можа й незаўсёды зразумелымі самому сабе лацінізмамі.

— Ня так, дык гэтак, — разважаў п. пасол далей, — пара варушыцца, час падрыхтоўваць масы, а дзеля таго, што масы беларускія -- гэта нашае сялянства, дык што-ж бы гэткае для іх выдумаць, каб пры патрэбе галаснулі дружна, як адзін???

Пачасаў патыліцу...

— „Сялянскі Саюз"! — перабіла яго задуму бліскучая, як маланка, гэніяльная думка.

— Во! гэта ідэя! — ўхапіўся за яе ўсею сваею істотаю п. пасол.

— Гэта нічога, што некалі я быў усерасейскім эсдэкам, бароўся за пролетарыят, гэта ўсё рэчы архіўныя. Хаця яно крыху і неконсэквэнтна — з Маркса пераехаць на нейкага беларускага Вітоса, — але годзі мне ўжо гэтае консэквэнцыі, кожны беларускі пісака мне ёю ў вочы тыкае...

— Глупства... мне трэба быць паслом, ня блага ўсё-ж такі... Годзі дарэмна езьдзіць у Жэнэву, або ў СССР!

Я ня эс-эр, не!

Быў калісь ужо тыдзень на Лукішках. Годзі!..

Я так сабе — сялянскі лідэр.

Толькі вось неарганізована ніяк нашае беларускае сялянства. Трэба яго арганізаваць. Трэба скарыстаць яго галасы ў будучыні (і ўжо недалёкай) для новага мілага пасольскага мандату. Трэба!

З гэткімі думкамі п. Я--ч першы раз за ўсё сваё жыцьцё ўзяўся за непаслушнае яму пяро ды хоць надта марудна паўзла літара за літарай, але ў рэзультаце ўсё-ж такі выйшаў цэлы артыкул для чароднага нумару „Сялянскай Нівы".

— Ну і клопат, ну і пот! — прабубнеў п. пасол, падпісаўшыся сваім тытулам, імем і прозьвішчам, — дастаецца-ж гэтым нашым бедным пісакам. Няхай яно... Найлепей — быць паслом.

Змарыўшыся, заснуў на пухавых пярынах і ўсю ноч прасьніў аб вечнасьці свайго пасольскага „Я"...

**Звончык.**

## Зьняважыў.

Сярод хаты на услоне,
Накрыж рукі склаўшы,
Ляжыць Тэкля—Янкі жонка
Душу Богу аддаўшы.

А над ей казілам шчыра
Поп дыміць, махаець,
І пры боку Янка цяжка
Па жонцы ўздыхаець.

Ад парогу аж да столу
Сабрало ўсю вёску,
Душна, сумна, чаду поўна,,
Ад кадзіла й воску.

— Упакой рабу Таклюсю...
Сумна поп выводзе.
Плач глухі і уздыханкі
Чутны у народзе.

Плача й Янка, як малое,
І ніяк ня знаець,
За што поп яго Таклюсю
Рабой абзываець:

— Што з таго, калі другая
Тварам ня шурпата,
А ў яе няма парадку,
Стаіць лядам хата.

А нябожчыца хоць, праўда,
І была рабая,
Але зух была кабета,
Проста залатая.

Што яна папу зрабіла,
Да яе што маець,
Што на божай на пасьцелі
Рабой называець.

— Упакой рабу...—ізнова
Сумна поп выводзіць.
Янку злосьць бярэць, нябога
Аж з сябе выходзіць.

—Ты хоць Бога пабаяўся-б—
Папа ён спыняе:
— Іншых пацераў ня ўмееш,
Толькі як „рабая"!?

І за што яе, зязюльку,
Мёртвую, чапаеш?
Сам ты лепей углядзіся,
Што за жонку маеш:

Мая хоць раба ды толькі—
Хай Бог гэткіх плодзіць! —
А ў твае і твар—што драчка,
І да дзяка ходзіць!

Я. Башкір.

## У Менску Беларускім на пошце.

— Прыймеце, калі ласка, забясьпечанае пісьмо.

— Что Вам угодно товарищ?

— Хачу здаць забясьпечанае.

— Какой-же Вы сдачи хотите?

-- А бадай ты спракудзілася! Вось напасьць ліхая, палюдзку разгаварыцца нельга!

— Машечка (зварочваючыся да другое працаўнічкі) — идите пожалуйста сюда, а то я Гарецкого забыла дома, а он требует у меня с письма сдачи і говорит, што я спаскудилась.

Что это значит спаскудилась?

— (чуваць з публікі) Няхай толькі наш камсамол падрасьце ды ўзмацуецца, то Вы тут паскудзіць ня будзеце.

## Госбанк у Маскве

(Дзяржаўны банк).

Камісар Банку чытае пісьмо, адтрыманае з аднаго з коопэратыўных банкаў Менскае акругі, пісанае пабеларуску і нічога ня могучы разабраць, заве сэкратара Яковлева.

— Тов. Яковлев, прочтите, пожалуйста, чего они хотят?

Яковлев (чытае ў паўголаса) — «У адказ на Ваш загад паведамляем, што справаздачу за мінулы час, г. зн. да 31 сьнежня ўключна вышлем Вам каля 15 студзеня г. г.

— «Отказ»?.. но в чем-же мы им отказали?

— „Загад" — это видно описка, надо читать „за год" „справаздача" — ну этого никак не поймёш? „Час", „снежанія", „уключна". . и причем тут „уключна", ведь это не лодка... а тут совсем не понимаю. „Студень"— на кой чорт нам их студень, у нас не ресторан і не потребительное о-во.

Яковлев (зварочваючыся да Камісара і аддаючы яму пісьмо).

— Нет, товарищ, этого языка никак не поймеш, ну и понавыдумали мы этих республик... Современем беды только наберёмся...

— Камісар, — садитесь и пишите — (дыктуе) N... кооперативному Банку.

В ответ на письмо Ваше №... уведомляю, что за неимением в нашем банке лиц, владеющих языком, на коем написано Ваше письмо, по существу ответить Вам не могу.

Впредь при переписке с нами приказываю пользоваться исключительно русским языком.

Если-же у Вас нет лиц, владеющих русским языком, то можно писать на немецком, английском, еврейском, польском и китайском языке.

**Гарэх.**

### „ДОБРЫ" ПРЫКЛАД.

*Прыхаджанін:* Скажэце, бацюшка, як гэта маглі Вас з кансысторыі назначыць у наш прыход, не запытаўшыся ў нас, прыхаджанаў?

*Бацюшка:* „Глупые люди!" — а калі вы нанімаеце пастуха да сваіх сьвіней, ці пытаецеся ў іх: здаволены яны сваім пастухом, ці не!?"

*Н.*

### ПРЫЗНАНЬНЕ ПЕРАД СЬМЕРЦЯЙ.

Жыў сабе пан з паняй і мелі яны пяцёра дзяцей: чацьвёра разумных, а пяты — дурань.

Перад сьмерцяй пан пытаецца ў пані:

— Скажы мне, Люсечка, вось ты жывеш апошнюю мінуту на гэтым сьвеце, а я яшчэ ня ведаю, чыё гэта, дурное дзіця? Прызнайся, дарагая!

— Дурны сын, — то гэта наш, а чатыры разумныя, — то гэта чужыя (парабка Міколы), — адказала пані і памёрла.

*Н.*

### Ксёндз і дзяўчына.

У канцы споведзі ксёндз пытаецца ў дзяўчыны: „Ці ня помніш яшчэ якіх грахоў?

На гэта дзяўчына адказвае:

— Я пасьлізнулася.

— Ну, дык гэта нічога, — кажа ксёндз: трэба хадзіць асьцярожна.

— Каб то-ж нічога?! — адказвае дзяўчына, — але што-ж я буду рабіць з тым... дзіцяткам (!).

**Эс.**

# Народныя прыказкі.

— *Пакуль „Маланка“ ня бліснe,—„Пярун“ ня грымне.*

— *Забіла „Маланка“ „Пяруна“, як апаліла „Авадня“.*

### Суседкі.

— На што гэта ты трымаеш варону ў клетцы? — пытаецца адна суседка.

— Бач, — кажа другая, — людзі гавораць, што варона можа жыць трыста гадоў, дык я хачу спраўдзіць гэта. Эс.

### „Вышэйшая культура“.

— Паночку, ці гэта праўда, што асаднікі маюць насадзіць у нас „вышэйшую культуру“?

— Праўда! Але адны асаднікі не патрапяць, — ім тыя паненкі дапамогуць, што папрыяздждалі на „крэсы“. Ужо ў некаторых мясцох будуюць шпіталі для „хоруб заказьных“.

*С—н—свой.*

### Панскія служкі.

— Дзеля чаго гэта ПэПэзСы выпускаюць на Палесьсі сваю газэту ў расейскай мове, якая завецца: „Красное Знамя“?

Бо цяпер, як пабраталіся з панамі і ўвадну дудку з імі граюць, дык баяцца нават піснуць што-небудзь у „хамскай“ беларускай мове, каб ня страціць ласкі ў паноў — эндэкаў.

*Я. Я. Я.*

### Падпора дзяржаўнасьці.

— Чаму гэта кожны асаднік апрача асады на нашай зямлі, мае яшчэ і пасаду ў гміне, паліцыі, дэфэнзыве і г. п.?

— Бо бачыш, гэта — падпора дзяржаўнасьці на „крэсах“. Трэба-ж паказаць, што і на Беларусі ёсьць прыхільнікі „дзяржаўнае нацыі“. *С—н—свой.*

### Чаму „Тымчасовая“?

— Скажэце, чаму гэта „рада“ пана Паўлюкевіча завецца „Тымчасовай“, дый шчэ „Беларускай“?

— Пэўна-ж — таму, што складаецца з такіх-жа тымчасовых беларусаў, як і сам пан „доктар“ Паўлюкевіч.

### Дармовая Абвестка.

У прыязных п. Паўлюкевічу органах прэсы надрукавана:

„Усебеларускі“ (палітычны) зьезд, які мае выбраць для ўсей Заходняй Беларусі „Сталую Беларускую Раду“ ўзамен „Тымчасовай“, адкладаецца на неазначаны час...

Дык — рыхтуйцеся-ж, усе беларусы, — да выбараў, не спазьнецеся...

Ад сябе просім ўсе гумарыстычныя часопісі перадрукаваць абвестку.

### Баяцца крыўды.

— Ці ведаеш, чаму гэта паны баяцца зносінаў з бальшавікамі?

— Таму баяцца, каб бальшавікі не пакрыўдзілі панскія... (думаеш маёнткі? не...) белыя рукавічкі сваімі чорнымі мазалістымі рукамі.

*Сыч.*

### Растлумачыў.

— Скажы, татка, — пытаецца малады хлапец у бацькі, — чытаў я ў газэтах, што нейкі „архіварыюс“ Студзінскі, ці ліха яго ведае як, хоча адабраць ад беларусаў Траецкія муры ў Вільні, што гэта за шышка, — гэты „архіварыюс“?

— Бачыш, сынку, „архі“ — гэта слова грэцкае, па нашаму азначае „галоўны“, напр., архі дыякан — галоўны дыякан. а... „варыюс“ — гэта відаць слова далікатнае—польскае, панашаму — проста вар'ят. Дык вось яно і выходзіць, што твой Студзінскі—архіварыюс ёсьць галоўны вар'ят ці, інакш кажучы, вар'ят з вар'ятаў.

### Самазванны.

— Кім належыць падавацца праваслаўнаму чалавеку ў Польшчы, каб яго лічыць прыхільнікам «дзяржаўнае нацыі“.

— Толькі Паўлюкевічам!

— І трэба быць доктарам?

— Не, не канешне, — можна быць тагды „доктарам“ і самазванным.

*С—н—свой.*

# Згаварыліся.

Прыйшоў да старасты жыдок прасіць, каб яму далі пашпарт і кажаць старасьце:

— Быў я, паночку, аж пяць разоў у гміне Вішнеўскай, прасіў, каб далі мне пасьведчаньне на права атрыманьня пашпарту, але сказалі, што трэба да пана старасты, — дык я і прышоў, паночку, прасіць ласкі панскай даць мне пашпарт, бо вельмі паліцыя прыстае ў дарозе.

— А апінію (opinję) маеш? — спытаўся стараста.

— Піню, Піню маю ўжо тры гадкі. Хлопчык такі прыгожанькі, — ўвесь у маму ўдаўся.

**М.**

### ПРЫСЯГА.

— Што здурнеў? П'еш гарэлку праз саломку?

— Мушу датрымаць слова. Я прысягнуў жонцы, што вусны мне не даторкнуцца больш чаркі.

# Ад Рэдакцыі.

Дзякуем усім тым сьвядомым грамадзянам-беларусам, якія ўжо прыслалі падпіску на **„Маланку“**.

Дзякуем таксама ўсім тым, хто прыслаў нам добрыя пажаданьні і выразы здаволеньня нашай часопісяй.

Дзякуем яшчэ раз усім аўторам, якія прыслалі свае творы да рэдакцыі. Прысылайце яшчэ і яшчэ. Пакуль што даём ганарар толькі за лепшыя рысункі.

Просім не прысылаць: даплатных лістоў, не даваць розных паручэньняў і запытаньняў, бо адпісываньне карэспадэнцыі займае шмат часу.

Напамінаем, што пробных нумароў больш ня высылаем. Усе тыя, хто ня прыслаў грошаў, трэцяга нумару „Маланкі“ ўжо ня ўбачаць.

Пачынаючы ад 1-га сакавіка с. г. „Маланка“ будзе выходзіць акуратна 1-га і 15-га кожнага месяца.

**Падпісная плата:**

на год—8 зл.; на паўгода—4 зл.; на тры месяцы—2 зл. і на адзін месяц — 1 злоты.

Адрэс: Вільня, Завальная № 7 (Рэдакцыя „Маланка“).




**І яны знаюць.**

Кажуць людзі, што толькі сабакі брэшуць, а тут у гэтай газэтцы «доктар» Паўлюкевіч гэтак брэша, што нават ніякі сабака не патрапіць.



## НАША ПОШТА.

**Васіль Матылёк.** За добрыя пажаданьні дзякуем Вам. Вельмі нас цешыць, што Вы шчыры сын Беларусі.

**Эсэс.** Вершы не падходзяць. Пішэце цікавейшыя.

**Міртнок.** Ваш фэльетон „Спосаб на ўсё ёсьць!“ — пайшоў да рэдакцыйнага кошыка. Пішэце што-небудзь цікавейшае.

**Янка Сасін.** Не падходзіць, — слаба пішаце.

**Пётра Ермаковіч.** Газэта „Беларуская Ніва“ выходзе тры разы у тыдзень і каштуе два злотых на 1 месяц. Падпісвайцеся на „Маланку“.

**В. Салавей.** Ваш верш ня можна зьмясьціць у „Маланцы“ дзеля трох прычынаў: пішаце „чысьцюсенькай“ маскоўшчынай; за такія словы, як у Вас:

„Агромным пожарам раздуй!“ могуць раздуць наш нумар конфіскацыяй і апрача таго, хоць пішаце Вы прыгожа, а ўсё-ж не гумарыстычна. Высылаем Вам толькі № 2 „Маланкі“, а далей чакаем падпіскі.

**Я. Оленцэвіч.** Прысылайце падпіску, болей высылаць ня будзем.

**М. Марушка і К. Грымута.** Высылаем і чакаем падпіскі.

**Беларуская Кавярня ў Баранавічах.** „Маланку“ на крэдыт не высылаем.

**Я. Дзешкоўскі.** Маркі паштов. адтрымалі і перадалі паводле вашай просьбы. Жарт не падходзе.

**Я. Пачопка.** З вершаў карыстаем і вельмі дзякуем. Чакаем яшчэ.

**У. Пышка.** Высылаем вам толькі адзін нумар, а далей чакаем падпіскі.

**Ст. Рымашэвіч.** „Авадзень“ ня выходзе і ня ведама ці будзе выходзіць. Высылаем Вам адзін нумар „Маланкі“ на пробу.

Рэдактар-выдавец **Янка Касяк.** Друкарня Б. Клецкіна, Вільня